*Таіса*
*Бондар*

# АКНО Ў ВОСЕНЬ



*вершы*



**Мінск**
**«Мастацкая літаратура»**
**1977**





Слова, першае ў сэрцы,— Радзіма!
Радзімая, самая родная...
Ледзь сонечны дождж праз зімы,
Праз неба іх шэра-халоднае
Святлом прасочыцца — тут жа
Усё расці заспяшаецца,
І холаду не адужаць
Цёплую, росную раніцу.
Адразу — неба крылатае,
І травы прапахнуць ветрам,
І песня весела ўсватае
За шляхам зялёнае лета...
Працяг адгукнецца: Радзіма-а!
Радзімая, далеччу светлая...
То срэбрам затканая ў зімы,
То цёплым святлом адагрэтая.



Глынуць ясноты і шчакой гарачай
Адчуць вільготны дотык цішыні,
Адмовіцца ад роспачы і плачу,
Сябе наноў у нечым перайначыць —
І хай бягуць, шумяць, іскрацца дні!
Зноў словы ў сэрцы гнездзяцца,
і песня
Вось-вось прарвецца радасцю
з глыбінь.
Пачуцці — думкі,
думкі — мары цесняць,
І ведаеш: з натхненнем уваскрэсне
Загадкавы, трывожны свет любві.

## БУРА

Новай буры акорды
Зноў уздыбілі неба.
Жыць —
        дык смела і горда!
Больш нічога не трэба —
Толькі б рукі ўтрымалі
Ярасць хмарнага лета,
Толькі б біўся над хваляй
Крык,
        падхоплены ветрам.
Знаю, дужых нярэдка
Не мінуюць няўдачы,
Я смяюся і плачу
Разам з бурай
        над гэтым.

## РАНІЦА У РЫБАКОЎ

Моліцца шчасцю
І вецер са мною...
Чайкі гарластыя
Ніткай жывою
Неба абцягваюць.
Бор заручоны
З цішай — і з прагай
Зараз да чоўна
Цягнецца соснамі.
Што з намі ўсімі?
Нарач выплёсквае
Золата з сінню —
З раніцы шчодрая!—
Дню на палітру.
Шэрань халодная
Хвалямі змыта.
Здэцца,
бы ў на́вадзе:
Хлопцы — работа! —
Цягнуць у невадзе
Сонца з чароту.



Палюбіць! О, гэта свята сэрца,
Калі цэлы свет
ў табе адной
Радуецца, плача і смяецца,
Калі ўсё з вясною заадно —
І цяжкое неба лістападу,
І празрыста-срэбныя вятры.
У паветры звонка спее радасць —
Пачакай і жменямі бяры!
Нават птушак ціхі плач расстайны
Не кладзецца на душу журбой.
Я жыву сваёй шчаслівай тайнай —
Ўсе трывогі выклічу на бой,
Ўсё змагу, спасцігну,
ў захапленні
Скарбы ўсе збяру —
і ўсе аддам,
Толькі б не згубіліся ў гадах
Гэтыя святочныя імгненні!



Радасць, на дзіва ціхая, простая —
У трапятанні крыл і пялёсткаў
Раптам пачуць біццё свайго сэрца!
Мерна гадзіннік дзеліць на чвэрці
Час — і мінаюць гады ці імгненні,
Не адчуваеш.
                    На цёплыя цені —
Дзень іх пакіне на памяць аб стрэчы —
З зоркі па промню спусціцца вечар
І залюляе ў абдымках мой сум...
Ціхую радасць з сабой панясу.

## ВЯСЕЛЛЕ

Запрошаны — усе.
Раней, не ўчора.
Вяселле!
            На страсе
Рушнік узорны.
Звініць, спявае медзь —
Дыханнем ледзьве
Кранеш, каб адагрэць.
І ўжо не ўседзіць
Ніхто на месцы, не!
Падлогу ўломіць,
Шырэе круг — дружней!
Ну, як не ўспомніць:
— Гэй, тупну нагой
Ды прытупну другой!..
Усім п'еца —
                        не віно,
Самое сонца
Захмелена вясной.
Дык пі, да донца!
Маладому —
Радасці ў доме!
Маладой —
Красу ды любоў!
Заплача аб былым
Старая скрыпка
І змоўкне —
                        паўз сталы

З усмешкай, звыкла
Сват маладых вядзе
У першы ранак.
У хаце —
          ўсё гудзе...
Ізноў старанна
Крамяную зару
Сатчэ світанак,
Святкуючы пару
Вяселляў п'яных.

## ПУСТЫННЫ ПРЫЧАЛ

Вечар
цёмным небам цячэ за нязбытым
у вечнасць.
Вецер
сонна варочаецца
у леце.
У сэрцы
дзень пражыты то тужыць,
то ціха смяецца,
У шляхоў расстайных, цяжкіх
на паверцы
Вечар. Вецер.
Золка.
На далонях мора ўспыхвае зорка.
Сонна
яе хвалі нясуць на бераг
бетонны,
Разбіваюць —
яна ж успыхвае воддаль,
Як надзея мая,
самотна і горда...
Словам золка.

* * *

Як перасаджанае дрэўца —
Цяплей тут зімы і мякчэй! —
І я хацела адагрэцца...
У глыбіні тваіх вачэй
Ільдзінкамі пытанні стылі —
Здавалася, ў сабе ты нёс
Халоднае святло пустыні.
Які самотны, горды лёс!
Не зразумела.
Позна. Позна...
І прырасла — не адарваць! —
Да месц чужых.
Перад марозам
Тут не схіляецца трава.
Тут сонца спее сярод лоз —
Яго агонь
у танцы ўплецен...
І дрэва за акном — не дрэўца!—
Шуміць,
баліць тугой бяроз.



Раптам адчуўшы, як гэта мала —
Ранак, і неба над ім, і вакзалы,
Плакала,
ў лёсу свайго прасіла
Не цеплыні, не пяшчоты—
дык сілы:
Забывацца, што й я — жанчына...
Плакала, сэрца сваё вучыла
І ненавідзець так, як любіла.
Білася, білася ў путах памылак —
Тое, што мець я магла, не схацела.
Воля кідала кволае цела
Ўслед за лятункамі...
Колькі, бывала,
Падала я, і паўзла, і ўставала,—
Раптам адчуўшы, як гэта многа:
Ранак, і неба над ім, і дарога!

## У ПАЛОНЕ ЦІШЫНІ

Ў цішыню гляджуся — ў раку
Сваіх думак, поўных самоты...
І, здаецца, вядуць грымоты
Да мяне вясну за руку:
Па рабрыстых ценях аблокаў
Вецер лена водзіць смыком,
Майскі дзень
                    па ўзаранаму ўзгорку
Важна ходзіць
                    надзьмутым граком
І варушыць пляміны сонца...
Падсыхае усюды ралля.
З пахам траў наплывае здаля
Звон далёкага бору
                    бясконца.
Кліча далеч майго каня.
Пераблытаны ўсе надзеі...
Пад нагамі заледзянелая
Ледзь вызвоньвае цішыня.

# РЭХА

Як аукнецца,
так адгукнецца —
Перайнач!..
Дык чаму: засмяюся —
вецер
Вяртае плач!
Дык чаму: заспяваю —
рэха
Плача ў адказ?
Закрычу — ні плачу,
ні смеху.
Дыхае час
Дзесьці побач...
Маўчанне — не ўцеха.
Так — гарчэй удвая...
І смяюся, і плача рэха —
Рэха, не я.

## ЛЮБЛЮ

І скарыўшыся, не скаруся.
Перад памяццю не схілюся,
Пахаваная ў чорнай скрусе,
Не азмрочу душу бядой.
Будуць пець пра веру і вернасць.
І няхай маладосць не вернеш —
Можна сэрцам быць маладой.
І смяяцца, калі хоць біся
Аб сцяну маўчання.
І выссю
Заклінаць твой шлях: азірніся!
І дарыць сабе ўсю зямлю.
І склікаць да парога вёсны.
Жыць між думак,
так светла ўзнёслых
Простым, ціхім словам «люблю».



Зноў і зноў
Я вяртаю той міг,
Што апошнім
Сустрэў нас дваіх.
І не плачу —
З табой я не ўмела!—
Ледзь кранаюся
Вуснамі веяў
І шапчу,
Як замовы шапчу:
Не аддам!
Не хачу! Не хачу...

## НЕ ГАНЮ НАДЗЕЮ

1

След у след за сустрэтай доляй,
Праз дакуку... І гэта — мне?
Сёння? Заўтра? Заўжды?
Ніколі!
Зноўку волю
страх падхлісне.
Дзве рукі, два крылы трапяткія —
Узмахну, і няхай услед
Зноў ляцяць камені цяжкія —
Ён са мной, шчаслівы мой свет!
Я люблю — вы чуеце, зоры?
Вам спрадвеку мара бліжэй.
Не бывае радасць у сорам,
Раўнадушша не ўсцеражэ
Ад бяды ніколі нікога...
Быццам два крылы, дзве рукі —
Я люблю. І рвецца дарога
За пaглядам,
увысь, у блакіт.

2

Крылы — выдумка чарадзеяў.
Мне казалі. Рукі — надзейней.
Абаўюцца ўкруг матчынай шыі.
Цэлы свет абмыюць, абшыюць.

Спрацаваныя, ў зморшчынках, вечна
Свет ад смутку будуць вылечваць.
Даглядзяць дзіця. Выткуць мрою.
Давядзецца — ўтрымаюць зброю.
Так. Надзейней рукі, я згодна.
Дык чаму ж у душы праз годы
Я пранесла тугу па небу!
Так і выйшла, што не патрэбна
Ўсё, чым я жыву,
                    ўсё, што маю...
Надта моцна зямля трымае,
Крылы — выдумка чарадзеяў.
Але я не ганю надзею
Адштурхнуцца ад цёплай глебы
І ўзляцець,
                    і крануцца неба.

## ПОКУЛЬ СПЕЮЦЬ ЛІЎНІ

Я адна — вы чуеце?— адна
Ўсё змагу: і ачуняць ад болю,
І забыць, забыць...
                    Нікому болей
Не даверу плач.
                    У ночы з дна
Усплываюць чорныя хвіліны,
Мне іх перажыць. Перажыву!
Лета аддае сябе жніву,
Сэрца — песні.
                    Покуль спеюць ліўні.



Няўтульны свет мой,
Ветру ж тут — раздолле,
За далячынню
Студзіць далячынь,
Хоць побач лета
Спеліць сваё поле,
Дамок шпачыны
Ўзняўшы на плячы.
І залацінкі,
Вымытыя ліўнем,
З-пад тоўшчы моху,—
Вабяць. Не бяру...
Нясу галінку
Горкае каліны,
Зламанай —
рана, позна —
Не ў пару,
Нясу галінку.
А здаецца, лёс свой —
У шэрыя
Асеннія дажджы,
Як пэўны выкуп
За вятры і вёсны,
За міг даверу,
Якім вечна жыць.
Няўтульны свет мой.
Іншага не трэба.

Багацце? Слава?
А са мной здаўна —
Заблытанае
ў струнах ветру
неба,
Заблытаная ў травах
цішыня.

## ДРУГАЯ ВЯСНА

Ночка сукні сцеле
Снам. Ды не да сну.
Прываротным зеллем
Мне б паіць вясну,
Каб прыходзіў любы
У аціхлы гай —
Можа, і на згубу
Мне,
Але няхай!
Горш — любві не ведаць,
Даўяраць цішы.
Што цяжэй за беды
Ўласнае душы!
Для каго пяшчота
Ўсіх начэй без сну...
Зеллем прываротным
Мне б паіць вясну...

## ТАК І ГЭТАК

Так хочацца глыбей капнуць, глыбей,
Каб затрымцела пад рукой крыніца.
Смяюцца побач дзесь:
— Вязальнай спіцай?

Так трэба знаць, што знойдзеш у сабе
Для кожнага і словы, і пяшчоту!
Як апячэ:
—Па бабе і турботы...

Так верыш далячыням: іх разбег
Падорыць свету новыя арбіты.
Паспагадаюць:
—Ногі ў кроў разбіты!

І пакідаюць сілы. І жывеш.
Ад роспачы баронішся надзеяй,
Нібы не чуеш:
—Бляск ваш — пад адзеннем...

Багіня ці раба — бяры, што лепш.
Абрала ж лёс паэта, не судзіце!
Звініць, бруіцца чыстая крыніца!



Акно надзеі адчыняю ў восень:
Хай забягаюць у пакой дажджы —
Ля печы сушаць мокрае калоссе!
З-за шэрых хмар,
нібы з-за паранджы,
Спускае сонца свае рукі-промні!
Пахукаю на іх,
патру ў сваіх —
Яны і пацяплеюць. Хоць на міг
Зямля
цяпло і сонечнасць успомніць...



Толькі б верыць, што хоць у сне
Ты імя маё паўтараеш,
І тады — няхай чорнай зграяй
Сто разлук пільнуюць мой смех,
Я смяяцца буду над часам:
Ён — бяссільны.
Неба — ўва мне.
І маўчаць яму ці звінець,
Пець ці крэсліць маланкай яснасць —
Вырашаць не толькі вясне.
Пражыву адна, ў іншым краі —
Толькі б ведаць, што паўтараеш
Ты імя маё, хоць у сне.



Выдумала, выдумала я
І спатканні нашы і разлукі.
Выдумала, што павек — твая.
Выдумала. Проста так.
З дакукі.
Што мне да таго: жывеш цяпер
Працаю, жанчынаю ці славай,
Калі вераю не стаў давер...
І хіба няма такога права —
Жыць любоўю?
Выдуманай — што ж!
Зноў вясна.
І гэты пах язмінны...
Вельмі мала —
толькі успаміны,
Хоць дзялі іх на дваіх,
хоць множ!
Выдумала, выдумала я
І адчай, і горыч, і надзеі.
Выдумка, што я павек — твая...
Жыць вось толькі без цябе не ўмею.



Загадзя б ведаць,
Дзе спатыкнешся!
Хлынулі беды —
Не абярэшся.
Людзі ж — як людзі! —
Паспагадаюць,
Потым асудзяць,
Бо маладая,
Бо палюбіла...
Што ж,
не збылося.
Зноў ля рабіны
Грэецца восень.



Патухлых зор
Самотнае святло
Жыве ў тваіх вачах.
Твае трывогі —
Бы ў душы надлом —
Са мной цяпер маўчаць...
Бяжы,
Нічым былым не даражы,
Сцяну стаў
за сцяной —
Ды зразумей,
Што і такі чужы,
Ты ўсё ж
да болю мой!

## БАБІНА ЛЕТА

Трывогі набываюць сілу,
Ледзь-ледзь бяссонне салаўёў
Праткне сцяблінка дзівасілу,
Апаліць рыжае жніўё.
Жаданні болей не мярылы:
І з крыўдай — жыць,
І з болем — жыць.
Не скінеш пацяжэлых крылаў —
Хоць ныюць плечы! — на мяжы
Сваёй любві, сваёй пакуты.
Не спадзяваешся — ідзеш
За думкай-зманам,
што трыпутнік
Лістом гаючым прыкладзе
Да свежай раны
дзень сустрэты...
Так. Ледзь трывогу салаўёў
Лісцём бяроз развеюць ветры,
Мы, бабы, плачам пра сваё.



Памылку — не паўтары...
Любоў? А сябе баішся.
Зноў голас: даюць — бяры!
Зноў — горлам горыч.
                              І высі
Усіх былых перамог
Цябе над сабой не ўздымуць,
Калі аднойчы не змог —
Не змог! — ажывіць пустыню
Пякучай жаночай тугі
Ні стрэчаю,
                  ні расстанием.
Любоў? А баішся раніць
Спакой свой аб берагі
Працягнутых рук жаночых
У ночы... Між сноў і ноччу.



Ці дагэтуль душа мая спала,
Ці нарэшце злучылі масты
Ўсе жаданні —
смяюся над тым,
Чаму ўчора малілася з палам.
Зрок набыў вастрыню —
кожны твар
Рэзка высвечан водсветам болю.
Колькі нас, праклятых любоўю,
Праклiналі хмель яе чар —
За бяссілле сваё, за няўменне,
Палюбіўшы,
пакорна чакаць
Стрэч, прызнання,
кальца і вянка...
На калені!— крычаць —
на калені!
Ты — жанчына. Скарышся гадам...
Я смяюся. Хоць гэта балюча.
Праз шчацінне паглядаў калючых
Прадзіраюся ўперад. Адна.



Тая бяда не бяда,
Якая адна.
Плача дзяўчынка —
Мячык панесла вада.
І пабягуць берагі,
Слупы і стагі,
А ці ж дагоняць?
Скача,
вясёлы, тугі.
Тая бяда не бяда,
Якая адна...
Плача жанчына —
Лёсу не скажаш:
Аддай!
Ці ж не гадзіла яна —
Можа, у гэтым віна...
Сёння — чужыя,
Позна. Зноўку адна.
Тая бяда не бяда?..
Навошта гадаць.
Плача старая —
Страчана шмат, а шкада,
Што не пажыць ужо больш:
Няхай бы праз боль,
Праз пакуту сувязь адчуць
Жывога — з сабой!
Тая бяда не бяда...

## БАЛЮЧАЕ

Нерастрачанае багацце —
Любоў да бацькі,
любоў да маці...
Хто пачуў бы маё маленне!
Узабрацца на бацькавы калені,
Гладзіць, гладзіць
далонню пяшчотна
Шчокі, вусоў калючую шчотку,
Адчуць шчасліва —
ўсёй істотай! —
Матчыных вуснаў цяпло і пяшчоту.
Хто пачуў бы скаргі мае!
Як?! Медалі —
вайной партызаніў —
Усе баявыя, да аднае,
А тут захварэе
і не прызнае
Сябра-доктара. Горкую п'е...
Як гэта!— мама, гордая мама
Плача! На людзях.
Ля самае крамы.
Ведае: горыч не вып'еш да дна,
П'е...
За канём ад цямна да цямна —
І за сябе адпрацуй, і за мужа.
Ад чаркі — лягчэй.
Не трэба быць дужай.

Можна ўпасці. Стагнаць. Ці праклянцем
Аблегчыць душу. О, мая маці...
Мы ёй, пяцёра, уцехай не сталі.
А як спадзяваліся стаць,
Як жадалі!
Плачу ад жалю, ад крыўды, ад болю —
Лёсамі не нагуляецца век...
Доля, нядоля — але ж не сабою
Гора падперці.
Аднойчы — навек.

## КАРМЭН

Скарыцца — каб скарацьǃ
Акрыла слава ценем,
Бо не да алтара
Ішла пад блаславенне,
А ў ноч. Шляхі любві
Шляхамі свету стануць,
Зноў промні зор — парві! —
Ўплятаюцца у танец.
І падае ў агонь
Абцасаў стук шалёны.
І клятвы. І праклёны
Пакрыўджаных багоў.
Хоць што яе дары!
Любоў, пяшчота, радасць —
Твой міг, усё бяры...
Не мне бяду апраўдваць,
Не нам!
              Ці ж мы не так
Да рук сваіх каханых
Схіляемся — і раны
Не адбаляць ніяк.



Грэх не ў тым,
Што мы грахом назвалі.
І дарэмна
ў чымсьці адмаўляць
Маладосці:
ледзь пяшчота хваляй
Захлісне — і паплыве зямля
У святле
такой магутнай сілы —
Свеціцца душа. А змрок прапах
Жніўнем, быццам яблык надкусіла
Ноч і — хруснуў, спелы, на зубах.
Шыбіна ці далеч запацела...
Вусны пацалункамі гарчаць.
Моліцца пакуце, шчасцю
цела,
Снам вяртаючы загадку чар,
Дням вяртаючы спакой і сілу.
Помніш:
Ева яблык надкусіла...



Засыпае лісце, замятае
Ўсе шляхі —
                    ідзі цяпер, шукай
Свет,
        сатканы
                    з сонечных світанняў!
Сляпа натыкаецца рука
На сцяну дажджу,
                                на мокры шолах
Мякка ападаючых гадзін,
На халодную, цяжкую шэрань...
Як свякрусе, восені гадзі —
Выцірай сляды ўспамінаў даўніх,
Цёплым словам слёзы асушай...
Адгарае лісце, ападае.
Плача па нязбытаму душа.

## НЕРУШ

На злом — няўдачы і цені
Ўспамінаў, сумненняў,
Стары дзядоўнік нязгоды.
Ва ўсім харастве
першародным
У яркіх промнях зары —
Зямля.
Нібыта здавён яна
Чарнела не ад праклёнаў,
Хісталася не пад крыжамі,
Амытая не дажджамі —
Слязьмі...
Спяваюць вятры,
Вятры спяваюць пра сонца.
Каханне —
у ім бясконцасць
Людской надзеі на шчасце,
І як было не прыпасці
Да звонкіх яго крыніц!
Душа сасмягла ў чаканні
Цяпла, пяшчоты.
Вянкамі
Агнёў купальскіх сплывала
Лета. Я пакахала.
Страх не сачыў з байніц
Дабрачыннасці таннай —
Адкуль я прыносіла тайну,

Куды хавалася сцежка,
Ўначы,
        да рэчкі дабегшы.
Каханне — свет цішыні.
Маўчанне прапахла ноччу,
І ўсходзяць зорамі вочы
Так блізка —
                ў іх тонуць думкі.
Спалохана ўскінуцца рукі
І звянуць. Ноч — у агні.
А гэта вялізная радасць —
Нічым непрыкрытая праўда
Цела. Бунт. І малітва.
Ўсё святло пераліта
У першаснае «люблю».
На збітай сцяжынцы — неруш,
А шчасцю гэтаму верыш,
Здзіўляючы кучку знаўцаў.
У шчасці лёгка прызнацца,
Прызваўшы ў сведкі зямлю.
Дабрэю душой памалу,
Ламала жыццё — не зламала.
За ўсё, за ўсё ўзнагарода —
Зямля
        ў харастве першародным,
З ёй радасць сваю дзялю.



І як не здзьмухне вецер!—
Срабрынкай на далоні
Зімы —
        твой ціхі вечар,
Надзеі вечар.
                        Звоняць,
Пяюць званы ўрачыста —
Зноў на адзін іх болей!
Гадоў пражытых прыстань —
Святочнае застолле...
Хай будзе год наступны
Шчадрэй на дні адкрыццяў!
Ледзь існіна саступіць
Жаночаму наіццю —
І зацвітаюць ружы,
Завіжваючы студзень...
Каму — сям'я, замужжа.
Каму — зямля, і людзі.
І тоне, тоне ў звоне
Бакалаў
              сум адвечны.
Срабрынкай на далоні
Зімы —
        твой срэбны вечар.

## У БАХЧЫСАРАЙСКІМ ПАЛАЦЫ

На сцяне,
Адбіткамі мноства далоняў,
Запацелае злёгку лісце —
Лета шукае выйсце.
І я заблыталася. У гадах.
Ціха плача вада
Пад трэск кінакамер
І шолах уздыхаў.
Цяжка дыхаць —
Душаць камені.
У душы трывожна і светла
Смутак прарос...
Як прызнанне — ружа паэта
У каменнай чашы для слёз.



Мы прыручаем птушак, прывучаем
Вяртацца і прыносіць нам, найперш,
У дзюбах —
з крыкам шчасця і адчаю —
Крупінку неба...
З месца не скранеш,
Здаецца, свет свой рэчавы, звычайны, —
Ніжэе неба, асвяціўшы дні...
Мы прыручаем птушак, прывучаем
Сябе да срэбна-звонкай вышыні.



Аплач сябе і ўваскрэсні
З попелу сэрца зноў,
Мая любоў, мая песня.
Ад горкіх, балючых слоў
Адмоўся,
павек адмоўся!
Былі цяпло і кветы.
Прыйшлі дажджы і вятры.
Такая пара ўжо —
восень.

## ТЫ І Я

Як ліўням маё сонца патушыць!
З халодных пырскаў выткаўшы світанак,
Яно ўзыходзіць песняю ў душы.

І нават, калі песня гэта — крык,
Крык пратэстуючы, цяжкі, балючы,
Яна не выпусціць вянка зары.

І ім акрые гэты горды свет,
Размежаваны, жорсткі і — шчаслівы.
У будучыні дзесьці знойдуць след

Шчаслівых слоў, якія у душы
Сягоння прарастаюць праз сумненні —
Як бурам маё сонца патушыць!

Я веру вось у гэты міг жыцця —
І не баюся памыляцца, страчваць,
І што ні крок — шырэй, шырэй працяг.



## ПЕСНЯ ПРА СВІСЛАЧ

Словы, цяжкія, як волава,
Як перадсмяротны хрып,
Не ўзыходзяць песняй —
Гукамі кволымі
Застываюць,
Быццам нарываў бугры.
І ўжо —
Адкуль гэта ў памяці?—
Згвалтаваным,
паўмёртвым дзяўчом
У сны паўзе з акупацыі
раніца,
Цяжка дыхае за плячом...
Зазірну ж у твар,
бялей белага,
Працягну руку — і адна!
Свіслач гоніць
бліжэй да берага
Хвалю, высвечаную да дна...

1

Ночка ў раніцы
Украла вочы,
І тая ў жаху кідаецца

Ўцякаць ад крыкаў
жаночых.
Цішыня нябогай-карліцай
Забілася ў хлеў каравы.
Здрада зрабіла
чорную справу —
Гругання чорная хмара
Кружыць між хатамі.
Зацкаваны аўчаркаю,
Хлопчык крывёю харкае...
Ля старой — дзяўчынка,
Ручкі малой
Чапляюцца за спадніцу.
Паліцай —
У конаўку ўпіліся сківіцы —
Ходзіць кадык, —
Не вады б яму, а смалы!—
П'е, у Ганнін твар
выплёсквае рэшту:
«Мала баішся нешта!
Дачку камісара прыгрэла,
сука?
Сваіх у лес...
Мо ірваць лебяду?..»
І вось ужо хата слепа,
бязрука
Таўчэцца ў полымі, чуе бяду.
Немец рагоча,
пляскае ў ладкі.
Дзяўчынку падняў ўгару
і — ў агонь!..
— Галечка! Не-е!
Маё ж ты дзіцятка!
Мамка прыйдзе — мяне спытае...
За што?..
Каго ты чапала, каго!

Ў агонь — бо дзіця камісара...
Будзьце прокляты вы, пачвары!
Ганну білі нагамі:
За дачку і сына —
дзесь партызаняць,
За пераможаны страх,
За пракляцці,
за тое, што маці.
І забілі б...
Тлела зара.
Коні вынеслі пад сцягамі
Партызанскае «Ура-а!».
А вёску не пазнаваў дзень:
Жвір тлеў пад попелам,
Каміны,
шкілет падарванага «оппеля»...
Шлях брыдзе
у лес
да людзей.
У гісторыю лёг гэты шлях
Сорак першым
абвугленым годам,
У якога дасюль па слядах
Гора страшным прывідам ходзіць...

2

Перажытае,
Ці ж то аджытае?
Гора...
Плачацца двор двару.
Да сябе ўсё туляць нябёсы
Акрываўленую Беларусь.
Свіслач ціха збірае слёзы...
Рака мая, мая Свіслач,
Ты—дзіўная песня бору.

Не толькі чаўны і зоры
Гайдала на хвалях ты,
Ты помніш —
мы гэта помнім! —
Вайну: ўсё палошчаш промні
Старанна, нібы бінты,
Бінты, ад крыві цяжкія, —
З прасцін,
з сарочак,
з рыззя...
Да сонца цягне лаза
Галінкі свае трапяткія,
Да сонца цягнецца дзень
Дзіцячымі галасамі,
А ярка-барвовае ззянне
Не тоне ў тваёй вадзе.
Ты — Свіслач,
ты — тонкая вена
Ля самага сэрца зямлі,
Маёй зямлі. І нязменна
З табой мне
лёс свой дзяліць,
Як думы...
Вёсны гайдаеш
На хвалях крутых — а чые?
Расказваюць:
маладая
Жанчына
косы свае
Распусціць —
і над вадою
Штоноч варожыць бядзе.
Дачушку
спалілі жывою...
Маладзік — пятаком на вадзе.
Арол ці рэшка?

Заблудзілася ў вуснах усмешка...
«З начэй, гарачых і зорных,
У ранак плач не данесці,
Сядзем, дачушка.

З рамонкаў, чырвоных і чорных,
Вянок не сплесці нявесце.
Срэбную стужку

У косы твае марозы ўплятуць
І завеі...
Вецер разгушкае —
Згубіць слязу бяроза,
Мо і ўзыдзе сляза лілеяй!
Пойдзем рана, і прыйдзем позна...»

Свіслач ціха збірае слёзы.

3

З чаго саткана цішыня?
З уздыхаў ветру?
З маўчання зор,
Што над магіламі ўзышлі?
З дум пасівелых?
З трапятання кветак?..
З галін,
Захутаных у водар ліп,
Дзень
пчол страсае,
Мякка, нецярпліва,
Цень аблачынкі растае ў вадзе —
Міг радасці —
насуперак бядзе!—
Вядзе хлапца
у срэбна-сіні лівень.

Пяшчота распускаецца у сэрцы
Нясмелай кветкай,
Першы дотык губ —
І свет,
          шчаслівы зноў,
Бы ў путах, б'ецца
У гуках вясніх ашалелых труб.
І ён, Кастусь,
                    п'янеючы ад сілы,
Ляціць у бездань ціхага:
                              «Люблю...»

З чаго саткана цішыня?..
                              Ажно ўпусціла
Ноч свой ліхтарык-месяц на зямлю —
Бабахнуў выбух,
                    вогненнаю глыбай
Уздыбіў шлях,
                    рэек стальныя жылы
Вузламі вяжучы...
                    Сіла — на сілу!
Спалохана аўтамат
Вылаяўся — палягчэла...
Узнялі галовы
                    здзічэлыя цені —
Іх шмат!
Кастусь упаў —
                    прастрэлены грудзі...
Страляйце! Чаго ж вы марудзіце?..
Схліснуліся кулі.
                    Кулямёты заенчылі.
Сябры стаяць, не ўгінаюць плечы,
Хоць наўкола смерць
                    і скача, і свішча
На ўсе лады —
                    чаго там, каса! —

Здаецца, тут яе такавішча —
Гэта вузкая паласа
Такой блізкай,
прапахлай іх потам,
Такой роднай балючай зямлі,
Ад якой сябе не аддзяліць
Ні цяпер — жывым,
Ні пасля — нават мёртвым...

А раніца не галасіла —
Адпомсціць! Як жа інакш! —
Жменямі жвір на магілу насіла,
На жвір паклала
пусты патранташ,
Шапку з чырвонай стужкай.
Рэха стрэлу
Далёка разнеслі птушкі
Па лясах. А клятве прагрымець
Новымі баямі...
Хто раскажа Ганне
Пра сынаву смерць?
Яліны?—
іх галіны
насілкамі сталі.
Вятры?—
яны яго адпявалі...
Не стагніце,
не плачце, сосны,
Не будзіце юныя вёсны!

Не шуміце, вятры, па лесе,
Не склікайце самотныя песні!

Масква салютуе Сталінграду —
Перамога! Вялікая радасць!
Беларусі — братоў дачакацца.

Ад Волгі да Свіслачы —
Пяцьсот шаснаццаць
Апаленых дзён і начэй.
Кастры партызанскія
ўсё ярчэй
Гарaць, разгараюцца...

4

Тут, дзе Свіслач,
гукаючы Пціч,
Па дубровах кружыць,
і сёння
Толькі кінь устрывожаны кліч —
Заіржуць партызанскія коні,
І гарачыя зоры,
чырвоныя зоры кастроў
Паплывуць між сосна́ў
за песняй
На крылах абгарэлых вятроў...
Быў тады Кастусь
мне равеснік.
І вось гэтак жа макі цвілі
На мяжы між жыццём і смерцю.
Да знявечанай весняй зямлі
Ўдзячна, нізка хілілася вецце.
І будзілі зару салаўі...
Мо таму так часта і ўпарта
Адчуваем мы час той — сваім,
І з гадоў далёкіх,
праз страты,
Ўсё ідзём да шчаслівых сябе,
Барацьбе —
Прысягаючы сэрцам.
Боль мінае.
І ўсё ж — застаецца.

## ЗМЕСТ

Б 81 **Бондар Т.**

Акно ў восень. Мн., «Маст. літ.», 1977.

56 с.

Свет чалавечых пачуццяў, то ясны і светлы, то ледзь крануты смуткам, жыве ў вершах Таісы Бондар.

Тэме мінулай вайны прысвечана «Песня пра Свіслач».

**Б** $\frac{70403\text{-}003}{М\ 302(05)\text{-}77}$ 38-77 **Бел 2**

*Таисия Николаевна Бондарь*

ОКНО В ОСЕНЬ

На белорусском языке

Рэдактар В. Б. Спрынчан. Мастак В. П. Масцераў. Мастацкі рэдактар М. Р. Казлоў. Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Карэктар Я. Ф. Харко.

ИБ № 198

АТ 24003. Здадзена ў набор 15/VII 1976 г. Падп. да друку 5/X 1976 г. Тыраж 2000 экз. Фармат $70\times90^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 2,05. Ул.-выд. арк. 1,63. Зак. 390. Цана 17 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Свярдлова, 4.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі праспект, 79.